№ 5 [8]

ТРАВЕНЬ 1948 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ВЕДАЙ, ВЕРАЙ, НАДЗЕЯЙ І ЛЮБОЎЮ ДА ЛЕПШАЕ БУДУЧЫНІ.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 30 фр.

Адрыс радакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 688744.

Падпісная цана на год 300 фр.

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!



Побач цярпеньня і бяды, якія час ад часу засмучваюць жыцьцё кожнага чалавека на зямлі, найбольш прыкрым зьявішчам, якое кладзе паважную цень на жыцьцёвую радасьць, зьяўляецца сьмерць. Як ад яе людзі ні бароняцца, як ні ратуюцца, выратавацца ня могуць. Найслаўнейшыя лекары ўміраюць так сама, як і іх пацыенты.

На тле гэтае сумнае зьявы асаблівае значэньне мае сьвята Хрыстовага ўваскрасеньня — Сьвята радасьці.

Так, як сьмерць Хрыста на Крыжы ўскалыхнула ўсім сусьветам, парушаючы зямныя скалы, сонца і зоры — так уваскрасеньне ўскалыхнула людзкімі душамі, парушаючы іх да радаснага захаваньня евангельскае навукі, каб стацца потым удзельнікам вечнага шчасьця ў Небе, а другіх да яе паборваньня. Той камень, якім быў прывалены Гроб Хрыста стаецца для адных апорышчам, каб узьняцца аж да Неба, а для другіх ён стаецца непраходнаю перашкодаю, аб якую разьбіваюцца ўдрызг і гінуць на векі.

Калі па сьмерці Хрыста палажылі Ягонае няжывое цела ў Гроб, дык адначасна там была зложана ўся справа людзкога спасеньня, усё пасланства. Апосталы паразьбягаліся, прыхільнікі і сымпатыкі зьняверыліся і пералякаліся, а жыдоўскія старшыні й архірэі сьвяткавалі перамогу. Увесь твор Хрыста выглядаў зруйнаваным.

Што да сьмерці Хрыста, дык ня было найменшага сумніву, але, каб яшчэ яе больш унагляднiць, адзін з ваякаў прабівае бок Хрысту так глыбока, што дастае аж да сэрца, каля якога па сьмерці зьбіраецца кроў, таму з раны выцякае кроў і вада. Пакалечанае і зусім сьцёкшае крывёю Цела Хрыста кладуць у недалёкім Гробе, высечаным у скале і замест магілы, прывальваюць аграмадным каменем. Аднак гэтага для архірэяў і старшыняў замала, яны прыпамінаюць словы Хрыста, што Ён мае ўваскроснуць на трэці дзень; дык вось яны бягуць да Пілата, каб

## УСІХ ЧЫТАЧОЎ УСХОДНЯГА АБРАДУ РАДАКЦЫЯ ВІТАЕ З ВЯЛІКІМ СЬВЯТАМ—ХРЫСТОС УВАСКРОС!

даў ім старожу з рымскіх жаўнераў пільнаваць Гроб да трох дзён. Пілат яшчэ раз здавальняе іх просьбу, архірэі запячатваюць Гроб, пакінуўшы пры ім рымскіх жаўнераў на варце і тады спакойна вяртаюцца дамоў, бо дысцыпліна рымскіх ваякаў была ведамая на ўвесь сьвет. Хутка пасьля сьмерці Хрыста (якая паводля навейшых досьледаў мела быць 7-га красавіка 30-га году), адбыўся страшэнны выбух вулькану Вэзувія ў 79 г., падчас якога распаленаю ляваю былі цалком залітыя гарады Гэркуланум і Пампэя. Падчас гэтае катастрофы жыхары, каторыя маглі, уцякалі, але рымскія ваякі, што стаялі на пастані, ня зрушыліся з мейсца; вогненная лява не зьлякала іх. Сёньня ў раскопаных гарадох іх звугленыя целы сьведчаць аб іх дысцыпліне. Таму спакойна спалі архірэі, паставіўшы на старожы каля Гробу гэткіх жаўнераў.

У гэткім спакою і цішы ў нядзельку раніцаю 9-га красавіка 30-га году каля Гробу Хрыста зьяўляецца ясьнеючы Ангел; рымскія жаўнеры ў страху валяюцца на зямлю, Ангел абвяшчае, што Хрыстос уваскрос і на доказ гэтага адвальвае камень Гробу і паказвае, што ў Гробе няма нікога.

Жаўнеры бягуць да архірэяў і старэйшын і пераказваюць ім аб здарэньні. Што рабіць?.. Хіба паверыць у боскасьць Хрыста? Гордыя архірэі ня хочуць упакарыцца нават перад Богам, яны падкупліваюць зьбянтэжаных жаўнераў і дакладаюць усіх сіл, каб старожа гаварыла хлусьню. Дзіўная людзкая натура: вось бачым архірэяў і старэйшын ў ліку манякаў і паборнікаў праўды і Хрыста, а жаўнера Лёнгіна, які прабіў бок Хрыста ў ліку першых вернікаў.

Незразумелыя для нас Божыя пляны: Ён злосьць людзкую выкарыстоўвае для агульнага дабра; грэх — для праяўленьня Свае дабраты; Гроб, варту і недаверства апосталаў для ўмацаваньня веры; Крыж, прыладу ганьбы — для Свайго праслаўленьня.

Калі мы сёньня, чуючы ад маленства аб уваскрасеньні Хрыста, глядзім на гэтую падзею з вялікім падзівам, дык нічога дзіўнага, што першы раз для самых нават апосталаў яна мусіла быць вельмі нязвычайнаю. Праўда, што Хрыстос загадзя падрыхтоўваў да гэтага факту так апосталаў, як і агулам усіх сваіх слухачоў. Апосталы былі забыліся, але архірэі вельмі добра памяталі словы Хрыста, што Ён мае ўваскроснуць на трэці дзень. Перад іхнымі вачыма Хрыстос уваскрасіў сына ўдавы ў Наім і нават прапахшага Лазара.

Не зважаючы на ўсё гэта, калі жанчыны Міраносіцы прыносяць першую радасную вестку аб уваскрасеньні Хрыста, дык апосталы ня вераць на слова жанчынам, яны шукаюць магчымасьці самым навочна пераканацца аб праўдзівасьці ўваскрасеньня. Хрыстос здавальняе іх жаданьне, хоць і дакарае іх за няверства. Больш таго, Ён на асобнае жаданьне ап. Тамы зьяўляецца ўмысна, каб паказаць яму Свае прабітыя рукі і праколаты бок. Няверны апостал мусіў за кару ўлажыць сваю руку ў прабіты бок, ды ўпакораны мусіў заклікаць: «Госпад мой і Бог мой» (Ів. 20, 28).

Ад таго ўваскроснага дня і да сёньня зьявілася крыніца нявымоўнае радасьці на сьвеце і будзе яна аж да канца сьвету. Царква суправаджае гэтае Сьвята найбольш радаснымі абрадамі, на якія пазваляюць людзкія магчымасьці. Вуснамі Ангела сьв. Царква зьвяртаецца да нас з заклікам: «Радуйся, і яшчэ раз кажу: радуйся!»

Калі аднак чуецца гэты заклік, дык не адзін сябе пытае: «Хай сабе Хрыстос і ўваскрос, але якая мне радасьць з гэтага, калі я ўсяроўна мушу памерці?»

Бясспрэчна, што кожны, хто радзіўся, мусіць памерці, але ад часу, калі Хрыстос ўваскрос, людзі паміраюць не навек, але толькі дачасу, каб у азначаны Богам дзень уваскроснуць таксама, як уваскрос Хрыстос. Пэўна, што для грэшнікаў гэнае ўваскрасеньне радасьці ня прынясе, але для справядлівых гэта будзе дзень трыумфу і пачатак вечнага і нявымоўнага шчасьця.

Калі гаворыцца, што Хрыстос уваскрасіў юнака з Наім і Лазара, дык гэта ня зусім дакладнае гавораньне, бо іх Хрыстос толькі ажывіў, таму яны потым памерлі зноў, а сам Ён уваскрос да такога жыцьця, над якім сьмерць ня мае ніякае ўлады, ані цярпеньне, ані слабацьці гэтаму жыцьцю няведамыя. Гэткае самае ўваскрасеньне чакае кожнага, хто жыў паводля прыказаньняў Хрыста. Вось гэта і ёсьць тая крыніца радасьці, бо праўда і справядлівасьць тады затрыумфуюць упоўні.

Падобна, як Хрыстос падрыхтоваў апосталаў да ўспрыняцьця весткі аб уваскрасеньні, так Ён падрыхтоўвае кожнага чалавека.

Штогод мы зьяўляемся сьведкамі веснавога ажываньня прыроды з зімовага сну пад уплывам жыватворчых праменьняў сонца.

Штогод мы аглядаем прарастаньне насеньня з зямлі.

Штодня прачынаемся самі з начнога сну і ўстаём з ложка, каб падобна ўстаць некалі ад сьмяротна сну з дамавіны.

Колькі будзе трываць наш сьмяротны сон, ведае толькі адзін Бог. Як сон жывых істотаў неаднолькавы, так і сьмяротны сон будзе трываць розна, бо напр. мядзьведзі, вявёркі, суслікі кажаны сьпяць цэлую зіму, а зерняткі некаторых расьлінаў сьпяць (бываюць у стане анабіозу) цэлыя дзесяцігодзьдзі, а нават і стагодзьдзі.

Уваскрасеньне Хрыста зьяўляецца запарукаю і нашага ўваскрасеньня, а ўсе абрады, якія суправаджаюць гэтае Вялікае Сьвята, служаць на тое, каб нас зрабіць больш годнымі для яго ўспрыняцьця. Зусім зразумела, што ані самая Вялікодная радасьць, ані зьмест гэтага Сьвята недаступны тым, якія тут на зямлі шукаюць толькі нагоды банкетаваць, а Вялікдзень уважаюць як найлепшую нагоду, каб удостань напіцца ды аб'есьціся. Але чаго людзі не надужываюць?

Сёньня мы перажываем вельмі ліхія часы. Надужыцьцё праватпарадку, розуму, няўвага да Божых прыказаньняў даходзяць да застрашаючых разьмераў, аднак мы разважаючы той шлях, які давёў Хрыста да ўваскрасеньня, моцна верым, што Ён і сучаснае ліхалецьце выкарыстае на большае Сваё праслаўленьне і на нашу карысьць.

Дык у прадчуваньні тае вечнае радасьці, у перамогу Праўды і ў Божую апеку над намі з усёю радасьцю сьвяткуйма сёлетні Вялікдзень, бо ХРЫСТОС УВАСКРОС!!!

# Валадарка Беларускага Народу

**Жыровіцкая Божая Маці.**



Дзіця ніколі не забываецца свае маці, а ў хвілінах гора і суму з асаблівай сілай зьвяртаецца да яе, каб атрымаць патрэбную помач і пацеху. Падобна і Беларускі Народ увесь час шчыра шанаваў сваю Нябесную Маці — Найсьвяцейшую Багародзіцу, але сёньня ў часе ўсенароднага суму і цярпеньня зьвяртае да Яе з а с а б л і в а ю шчырасьцю поўны надзеі зор і ўздымае рукі, благаючы пацехі і падтрыманьня ды шле да Яе гарачыя малітвы перад Яе сьвятым Жыровіцкім абразам, праз які Беларусь цягам доўгіх стагодзьдзяў атрымоўвала ад Бога нязьлічоныя ласкі.

Жыровіцкая Богамаці — наша праўдная Маці, бо ня мы Яе выбралі сабе, але Яна нас выбрала; Сама зьявілася пастушком на дзікай аквечанай грушы ў лясным гушчары і ў нязвычайным сьвятле. Дзеці заносяць маленькі абразок на яшкавым камені свайму магнату, і хрысьціянскаму рыцару Аляксандру Солтану, але Найсьвяцейшая не захацела быць у яго шкатулцы і зноў цудоўным спосабам пераносіцца на тую самую грушу ды аб'яўляецца пастушком (каля 1470 г.).

Ад таго часу Яна зьвязвае долю свайго цудоўнага абразу з доляю Беларусі, каб разам перажываць яго долю і цярпеньні.

Першая царква пабудаваная на Яе чэсьць хутка згарэла, але абраз астаецца непашкоджаным і зноў цудоўна аб'яўляецца дзяцям на камені каля папялішча царквы, ды перахоўваецца ў хаце сьвятара аж пакуль выбудавалі новую сьвятыню на Яе чэсьць.

Каля новавыбудаванае царквы пад апекаю Жыровіцкае Богамаці паўстае цэлае аселішча і школа.

Хутка пасьля гэтага на Беларусі запаноўвае Унія (грэка-кат.) і ў Жыровічах асноўваецца Базыльянскі манастыр. Пачынаецца буйны росквіт духовага жыцьця, а сьледам за ім паўстаюць адна за другою новыя сьвятыні і прыпожы школьны будынак дзякуючы стараньням Базыльянаў. У 1672 г. будуецца мураваная царква на мейсцы, дзе другі раз на камені зьявіўся цудоўны абраз. Камень захаваны да сёньня.

У 1760 г. будуецца галоўная царква Успеньня Маці Божае на мейсцы першага зьяўленьня цудоўнага абразу і цудоўнае крыніцы, якая да сёньня знаходзіцца ў пад'зямельлях царквы, быццам яўны знак нявычарпальнасьці Ласкі Божае, якую дае Бог малельнікам на гэтым сьвятым мейсцы.

У 1769 г. будуецца трэцяя мураваная царква сьв. Крыжа з абразамі Крыжовае дарогі — Кальварыі. Відаць Бог даваў знак, што Беларускі На-

род меў прайсьці сьледам за Хрыстом цярністы шлях.

Акрамя тапо на магільніку выбудавана дзеравянную царкву сьв. Юрыя.

Шчырая малітвы штодзённа ўзносіліся перад цудатворным абразом, з неба Найсьвяцейшая Дзева ссылала для Беларускага Народу багатыя ласкі, якія вымольвала ў Свайго Сына.

За дачасныя ласкі Беларускі Народ дарыў сваю Нябесную Маці каштоўнымі падарункамі з серабра, золата і дарагіх каменьняў, якія густа прыкрашвалі Яе цудатворны абраз і часткава асталіся да сёньня.

Паломнікі густою лавою лета ў лета дня 7-20 траўня аблягаюць цудатворны абраз і між шэрымі сялянскімі сьвіткамі часта мігаюць панскія жупаны, біскупскія мантыі, кантушы ваяводаў і нават каралеўскія кароны.

Толькі адна Прачыстая ведае, колькі сялянскіх сыноў і дачок зьвярталіся да Яе і колькі яна ім памагла; неперлічыць так-жа і беларускіх магнатаў, якія кленчылі перад Яе абразом (Агінскія, Астрожскія, Палубінскія, Паслаўскія, Сапегі, Солтаны, Сьлізьні і інш.).

Ня раз маліўся там вялікі беларускі канцлер Леў Сапега.

Каралі, якія адначасна былі вялікімі князямі Беларусі, ня раз пакорна схілялі там свае галовы: Уладыслаў IV разам з каралеваю адведвае Жыровіцкую Богамаці 9-12-1644 г., Ян Казімір надае Жыровічам Магдэбурскае права, а 19-5-1667 г. перад усім соймам дзякуе «Усемагутнаму за Яго сьвяты Правід, за дараваньне поўнага ласкі Жыровіцкага абразу Найсьвяцейшае Божае Маці, як мейсца міласьці і апекі», ды кліча: «Мы вечна павінны з пашанаю аддаваць чэсьць гэтаму абразу Божае Маці, бо праз Яе заўсёды атрымоўваюцца багаславенствы і паводзіны дзяржаве», Ян III Сабескі двойчы адведаў Жыровічы, раз у 1684 г., а другі раз разам з каралевічам Якубам у 1688 г. Аўгуст II Сас не абмінуў так-жа Жыровічаў, і Станіслаў Панятоўскі пакорна пакланяўся перад Жыровіцкаю Багародзіцаю.

Але найбольш гістарычнаю падзеяю, якая адбылася ў Жыровічах, быў дзень 19-га верасьня 1730 г. — тады ў прысутнасьці нарочнага пасланьніка ад Сьвяцейшага Айца Клімэнта XII з яго багаславенства Жыровіцкая Богамаці каранаецца залатою каронаю на «Каралеву Беларускага Народу» (**Regina Populi Rutheni**). Вымоўная гэта дата, бо сталася амаль на мяжы ўпадку беларускае дзяржаўнасьці. Гэтым Богамаці быццам хацела зьвярнуць увагу і сказаць, што не пакіне Беларускага Народу, але Сама будзе апекавацца ім у надыходзячых выпрабаваньнях.

Запраўды, часы зьмяняліся што раз на горшыя. І так цяжкая доля пад наступам польскіх магнатаў сталася яшчэ цяжэйшаю, калі над Беларусьсю ўзьнялася рука расейскага цара. Для прысьпяшэньня й аблягчэньня русыфікацыі Беларусі ў 1839 г. касуецца Унія, касуюцца Базыльянскія манастыры. Пусьцее Жыровіцкі манастыр і зводзіцца царскім загадам да другое катэгорыі, зьяўляюцца ў ім чужыя людзі.

Не па душы было чужынцам, што Жыровіцкі абраз хоць і належыць да тыпу т. зв. «Уміленьня», але «захаваў больш італійскі характар, чым усе грэка-італійскія пераводы гэтага тыпу, Дзіцятка, прадстаўленае на гэтым абразе, абняўшы Маці абедзьвюма ручкамі і з голымі ножкамі», піша Н. П. Кондакоў (Иконографія Богоматери с. 52).

Але Беларускі Народ не зьвяртаў увагі на гэтыя розьніцы, самыя вернікі так каталікі, як і праваслаўныя гарнуліся, як і раней да свае нябеснае Валадаркі з усімі сваімі духовымі і дачаснымі патрэбамі, цярпеньнямі і турботамі і не адходзілі ад абраза з нішчым.

Нябесная Маці заўсёды знаходзіла спосаб і магчымасьць памагчы сваім цярпячым дзецям. Таму і мы сёньня зьвяртаемся да нашае Нябеснае Валадаркі перад Яе Жыровіцкім абразом з шчырым благаньнем:

— Найсьвяцейшая Дзева Багародзіца і наша Найлепшая Маці і Валадарка, выслухай нашу просьбу — скарачі дні нашае няволі і зьдзеку. Нашы дачасныя цярпеньні, боль і бяду прымі, як ахвяру за нашыя грахі і занясі іх Сыну Твайму і Богу нашаму ды зышлі нам ласку пабожна і годна перанесьці той жыцьцёвы Крыж, на які мы сабе заслужылі, але дай нам шчасьце аглядаць сваімі вачыма вольную Бацькаўшчыну і працаваць у ёй Богу на славу і сваім братом на карысьць, а ў вечным жыцьці стаць праваруч Твайго Сына ў вечнай славе з усімі сьвятымі. Амін!

**а. Л. Гарошка.**

# Сталасьць прыродных законаў і найвышэйшае Божае кіраўніцтва у сьвеце

Падаём у тлумачэньні з італійскага прамову Сьвяцейшага Айца Пія XII, якую ён выгаласіў 8-га лютага 1948 г. на інаўгурацыі ў Папскай Акадэміі Веды ў прысутнасьці шматлікіх вучоных сусьветнае славы, кардыналаў і дыпляматычных прадстаўнікоў пры Ватыкане. Таму і зьмест і форма прамовы адказваюць інтэльлектуальнаму ўзроўню акадэмікаў. З яе ня трудна пераканацца, як наіўна-сьмешнымі выглядаюць закіды супроць Каталіцкае Царквы, быццам яна не паступовая,

ня йдзе з часам і т. п. Хрысьціянства цэніць веду, але адначасна прыпамінае вучоным, што веда бяз Бога, без маралі для чалавецтва ёсьць тым, чым напр. аружжа ў руках вар'ята.

На ўступе Сьвяцейшы Айцец прыпамінае свайго папярэдніка Пія XI, асноўніка Акадэміі, пасьля чаго зьвяртаецца да акадэмікаў:

«Вы падняліся на ўзвышша людзкое веды, на горы веды спэкулятыўнае, матэматыкі, астраноміі — сягнулі да сузор'яў і туманнасьцяў ,але вы так-жа зышлі на раўніны веды практычнае, якая праяўляецца ў тысячных формах мастацтва, тэхнікі — і ўсё гэта таму, што вялікая ёсьць магутнасьць людзкога розуму, які мае змогу дзейнічаць і стацца розумам практычным, які для далейшага пазнаваньня і для ўласнае падмогі выкарыстоўвае нязьменныя законы і матэрыю, каторыя ў сваіх рэгулярных праявах бязупынна кіруюцца і падтрымоўваюцца Божым правідам.

### Разуменьне і аб'ектыўная вартасьць прыродных законаў.

На нашым глёбе ў нашых вачох гаспадаром магутнейшым за ўсіх жывых істотаў зьяўляецца чалавек, катораму Бог прызначыў зямлю для размнажэньня, а для здабыцьця хлеба загадаў, працаваць сваімі рукамі. Таму ня дзіва, калі вялікі філязоф з Старагіры, Арыстотэль, людзкую душу прыраўноўвае да рук. І запраўды ўсё зрабіла рука: гарады і крэпасьці, памятнікі, кадэксы мудрасьці веды, мастацтва, паэзыі сабраныя ў бібліятэках. Падобна рэч маецца з душою, якая дадзена толькі чалавеку ў адрозьненьне ад усіх стварэньняў, якіх пачуваньні і розум атрымоўваюць усе формы і абразы самых рэчаў.

Хай-жа нам будзе дазволена, падзівіцца з вашае рукі і вашага розуму, з Вас такіх, якімі Вы зьяўляецеся ў вашых школах, лябараторыях з вашымі прыладамі і вашымі арсэналамі. Але адначасна Вы настаўнікі і Вы вучыце, пакідаеце па сабе не пачуцьцёвыя і разумовыя формы вашае душы, але праз іх тое, што сама прырода спрычыніла і пакінула ў вашых распазнаўчых здольнасьцях. Вы ў вашай фантазыі і ў вашай думцы фармуеце, вынайходзіце і зьдзейсьніваеце цудоўныя абразы і праекты машын, прыладаў, тэлескопаў і мікраскопаў ды тысячы іншых розных прыладаў, з мэтаю, каб выкрыць, утрымаць і кіраваць сіламі прыроды. Аднак вашае мастацтва не стварае матэрыі, з якою маеце дачыненьні, яно толькі прытарноўвае яе і кіруе ёю згодна з тымі законамі, што вы іх выкрылі, узгадняючы вашу практычную і тэхнічную веду існуючых рэчаў да вашага спэкулятыўнага пазнаньня тых-жа рэальна існуючых бытаў.

Гэтак праўдзівы закон прыроды асноўна пазнаны... пранікае ўглыб рэчаіснасьці, вышуквае й адсланяе ўнутраныя закрытыя сілы зьявішч, выяўляе іхнія дзеяньні і суадносіны. Лёгка тады зразумець, што пазнаньне правоў прыроды дае чалавеку магчымасьць уладаньня сіламі прыроды і запрагаwaньня іх сабе на службу з помаччу навачаснае разьвітае тэхнікі. Толькі такім чынам можа падняцца думка чалавека да таго, каб уцяміць парадак спэктральных лініяў, якія сёньня вучоны заўважвае і разрозьнівае ў сваіх лябараторыях, а ўжо можа заўтра яны ўмагчымяць астраному-фізыку глыбейшы ўнік і пазнаньне тайніцаў складу і разьвіцьця нябесных целаў.

Гэткім парадкам вучоны, выходзячы з асноваў прыродных законаў, пры дзейнай дапамозе сучаснае тэхнікі, пры пазытыўным і праўдзівым пазнаньні ўнутраных нахілаў элемэнтаў ды іхняга дзеяньня ў прыродных зьявішчах, стала і вытрывала йдзе наперад да далейшых адкрыцьцяў насупраць усялякіх труднасьцяў і перашкодаў.

### Атамная эра.

Найвялікшым прыкладам, чаго можа дасягнуць напружаная актыўнасьць, здаецца мае быць тое, што чалавеку ўканцы ўдалося асягнуць пазнаньне законаў, якія высьняюць фармаваньне і разьбіцьцё атаму, і гэтак удалося заўладаць, прынамся часткова, разладаваньнем магутнае энэргіі ў гігантычных разьмерах. Ужытак вялікае часткі ўнутранае энэргіі урану стаўся рэчаіснасьцю і знайшоў прытарнаваньне ў будове «атамнае бомбы», або «бомбы зародкавае энэргіі», - найстрашнейшага аружжа, якое толькі розум людзкі да сёньня змог прыдумаць.

Пры гэтай нагодзе мы ня можам паўстрымацца, каб ня выказаць думкі, якая для нас — як аднаго спаміж шматлікіх, што маюць праўдзівае пачуцьцё людзкасьці — зьяўляецца вялікім цяжарам. Тут прыпамінаюцца словы сьв. Аўгустына з 19 кн.: «Аб валадастве Бога», дзе гаворачы аб справядлівай вайне, піша: — «Аб якіх бедах мне проста немагчыма было-б расказаць яксьлед і як гэтага вымагае праўда?... Гэта тыя шматлікія зьнішчэньні і цяжкія ды бязьлітасныя ўцісэньні. Хто разважае аб гэтых страшных і пагубных злыбядах, мусіць дабачыць у іх нізкі ўпадак, але той, хто гэткае зло пераносіць, думаючы аб іх без парушэньня душы, лічачы сябе шчасьлівым, упаў яшчэ ніжэй, бо загубіў людзкае пачуцьцё».

Калі тагачасныя войны апраўдвалі гэты суровы прысуд вялікага Доктара, дык якіх-жа слоў павінны сёньня ўжываць мы, каб асудзіць тое, што да жывога пранікла наша пакаленьне і што прымусіла сучасную, непараўнальна больш разьвітую тэхніку, да бураньня і нішчаньня? Якіх няшчасьцяў павінна было-б спадзявацца чалавецтва, калі-б аказалася няздольным паўстрымацца ад ужыцьця новых і ўсьцяж больш нечаканых навуковых вынахадаў?

Не бяручы аднак гэтым разам пад развагу ваенны ўжытак атамнае энэргіі і пры той надзеі, што яна будзе накіравана выключна на шлях супакою, трэба ўважаць гэніяльным адкрыццё тых законаў прыроды, што рэгулююць найбольш унутраны склад і дзейнасьць неарганічнае матэрыі.

У запраўднасьці тут ёсьць гутарка аб адзіным магутным законе прыроды, які праяўляецца перадусім у так званай «пэрыядычнай сыстэме элемэнтаў». Л. Мэйэр і Д. Менделеев у 1860 г. на сьціплых тагачасных выніках хэміі, гэніяльна яе прадбачылі, ды запачаткавалі ў правізарычнай форме. Аднак яна мела шмат пропускаў і недакладнасьцяў; яе глыбокі зьмест, аставаўся цёмным, але ўжо можна было прадбачыць спародненьне між хэмічнымі элемэнтамі і аднолькавую будову іхных атамаў з падатомнымі часткамі.

З году ў год вобраз хутка выясьняўся, нястачы й недакладнасьці зьнікалі ды адкрываўся больш глыбокі зьмест. Мы тут абмяжуемся толькі да важнейшых этапаў на гэтым шляху: адкрыцьцё сужонкамі Кюрі актыўных радыё элемэнтаў; атамны мадэль Рутэрфорда і законы, кіруючыя ім, у пяршыню выяўленыя Борам; адкрыцьцё ізотропаў Францішкам В. Астона; першыя разьбіваньні ядра натуральнымі праменьнямі альфа і пазьнейшая сынтэза новых цяжкіх ядраў атрыманая бамбардаваньнем лёгкімі нэўтронамі; Фэрмі адкрывае лёгкія трансураніяны; прадукцыя трансураніянаў у паважнай колькасьці, між імі ў першую чаргу плютона, які творыць актыўную частку бомбы і атрымоўваецца ў «стаўпох уранію» вялізарных разьмераў — словам, коратка кажучы, лягічны развой і ўдасканаленьне натуральнае сыстэмы хэмічных элемэнтаў ушыр і ўглыб.

І калі мы кінем вокам на вынікі гэтых нязвычайных досьледаў, дык убачым, што яны яшчэ не зьяўляюцца закончаным ходам упярод, а толькі паказчыкам да новага пазнаньня і пачаткам тае эпохі, якую назвалі «атамнай эпохай». Яшчэ нядаўна веда і хэмічная тэхніка займаліся амаль выключна праблемамі сынтэзы і аналізы малекул і хэмічных спалучэньняў; сёньня інакш: зацікаўленьне зводзіцца да аналізы і сынтэзы атаму і яго ядра.

Праца вучоных пойдзе непаўстрымана ў тым кірунку, каб знайсьці нятрудны і бясьпечны спосаб кіраваньня працэсам разьбіцьця атамнага ядра, каб гэткім спосабам выкарыстаць для поступу цывілізацыі багатыя крыніцы энэргіі.

Дзіўна прыгожыя дасягненьні людзкога розуму, які пранікае й дасьледжвае законы прыроды, ды адначасна накіроўвае чалавецтва на новыя шляхі: ці-ж можа быць штосьці больш шляхотнага?

**Законы прыроды ўдзелам вечнага закону ў Бога.**

Закон — гэта парадак, сусьветны закон — гэта парадак у вялікіх, а так-жа і ў малых рэчах. Гэта парадак, у якім нішто ня можа заіснаваць ад сябе, ці стварыць сябе; парадак, які нам гаворыць аб парадкуючым Розуме ў адным Духу, што стварыў сусьвет і ад якога «залежыць неба і ўся прырода» (Пар. 28, 42); парадак, каторы атрымалі тыя ўнутраныя імкненьні і энэргіі разам з быцьцём і з якімі супрацоўнічаюць дзеля стройнага ўпарадкаваньня сьвету.

Дзіўна прыгожая сувязь прыродных законаў, выкрытых людзкім гэніям дзякуючы няўтомным досьледам і акуратным студыям і каторыя вы дасьледжваеце, ідучы ўпярод, дадаючы перамогу да перамогі над укрытымі перашкодамі сілаў прыроды, — што-ж гэта ўканцы, як ня вобраз хоць недасканалы і бледны вялікае ідэі аграмаднага Боскага малюнку, які ў думцы Бога Тварца пачаўся ад дзён Яго вечнасьці, як закон гэтага сусьвету? І так ў неабмежаванай прамудрасьці свае думкі гатаваў Ён Неба й Зямлю, ды стварыўшы сьвятло над прадоньнем хаосу—калыскі сусьвету так-жа Ім створанай — даваў пачатак руху і лёту, вяком і часу, паклікаў да быту і жыцьця, да дзеяньня ўсенькія рэчы паводля іх роду і адмены, да найменшага атаму ўлучна. Тады кожны розум, што падобна, як ваш, разважае і пранікае неба ды важыць зоры, павінен сказаць, зьвяртаючыся да Бога: «Усё Ты прыгатаваў паводля меры, ліку і цяжару» (Прам. 11, 21).

Ці-ж вы не адчуваеце ў вашым сэрцы, што нябесны далягляд, які нас ахінае, і той глёб, які мы топчам, вашы мэтры і шматлікія прылады — ўсё разам гаворыць аб славе Бога й адбівае ў вашых вочах прамень тае нястворанае прамудрасьці, якая сягае з канца ў канец і ўсё разьмяркоўвае лагодна? (Прам. 8. 1).

**Адзінства прыродных законаў.**

Вучоны не бяз узрушаньня адчувае вечную Божую мудрасьць, калі яму досьледы выказваюць, што сусьвет паўстаў быццам адным выбухам з бязьмежнае кузьні часу і прастору. Зорныя нябёсы ня толькі зложаны з тых самых элемэнтаў, што й Зямля, але заўсёды і ўсюды ў сваёй нутранай і вонкавай актыўнасьці яны паслушныя тымжа самым касмічным законам. Атамы зялеза, узбуджаныя ў вольтавай дузе, або ў электрычнай іскры, вытвараюць тысячы зусім выразных лініяў, аднолькавых, падобных да тых, якія фізык-астраном заўважвае ў так званым пляскім спэктры некалькі хвілінаў перад поўным зацьменьнем сонца. Тыя самыя законы гравітацыі і ціску ад дзеяньня праменьняў вызначаюць велічыню масы ў фармаваньні сонечных целаў у бязьмежжах сусьвету

аж да найдалейшых сьпіральных туманнасьцяў улучна; тыя самыя законы атамнага ядра праз паўставаньне і разьбіваньне кіруюць эканоміяй энэргіі ўсіх сталых зорак.

Малюнак такога-ж скончанага адзінства й парадку, як у неарганічным сьвеце, вы спаткаеце ня ў меншай ступені і ў жывых арганізмах. Варта толькі затрымацца на прычыновасьці, сьведама абстрагуючы ад уласьцівае дамэтнасьці, якая спатыкаецца на кожным кроку ў разьвіцьці жыцьця. А што паказвае хоць павярхоўны ўгляд на унівэрсальны і паўсюдны склад арганізмаў і на найнавейшыя адкрыцьці ды высновы параўнаўчае анатоміі і фізыялёгіі? І вось маеце ўсюды тую самую будову касьцяка з гомолёгічнымі органамі ў вышэйшых жывёлаў, а перадусім датарнаваньне й функцыянаваньне пачуцьцёвых органаў, напр. вока ад найпрасьцейшых формаў, аж да найдасканальшага органу зроку ў чалавека, — асноўныя законы асыміляцыі, перамены матэрыі і размнажэньня ўва ўсёй жывой прыродзе так-жа тыя самыя.

Ці-ж усё гэта не адсланяе агульнае й вялікае ідэі адзінства ажыцьцёўленае й праяўлянае ў шматлікіх формах і розных выглядах? Ці-ж гэта ня ёсьць замкнёнае і абсалютна зафіксаванае адзінства прыродных законаў?

Так: ёсьць замкнутае адзінства ключом таго сусьветнага парадку рэчаў, супроць якога, паколькі гэта залежыць ад першапачаткавае прычыны, якою ёсьць Бог Створца, сам Бог ня можа дзеяць, бо калі-б зрабіў інакш, дзеяў-бы супроць свайго розуму, або супроць свае волі, ці дабраты, а ў Ім няма перамены, ані ценю зьмены (Як. 1, 17).

Што да парадку, залежнага ад другарадных прычын, дык Бог мае ад іх ключ і можа сам парадак пакінуць някранутым, або парушыць яго і дзеяць незалежна. Бо ці-ж Бог, ствараючы сусьвет, падпарадкаваў Сябе ніжэйшым, другарадным, прычынам? Ці-ж гэны парадак не залежыць ад Яго самога, паколькі ад Яго ён пачаўся ды не з патрэбы Ягонае боскае натуры, а толькі з вольнае волі? Дзеля таго, калі Яму спадабаецца, можа дзейнічаць, не аглядаючыся на ўстаноўлены парадак, напр. зьдзейсьніваючы вынікі другарадных прычынаў бяз іхняга ўдзелу, або ствараючы вынікі, да якіх звычайныя другарадныя прычыны ня здольныя. Таму ўжо вялікі Доктар сьв. Аўгустын пісаў: «Слушна мы кажам, што Бог зрабіў нешта насупраць натуры, калі Ён робіць супроць таго, што нам ведама ў натуры... Аднак супроць найвышэйшага закону прыроды... пастолькі немагчыма дзейнічаць Самому Богу, паколькі Ён Сам супроць Сябе ня дзейнічае »

Якія ёсьць гэткія выпадкі?

Выпадкі, ад якіх сам Бог трымае ключ у сваёй тайне гэта... тыя выпадкі, якія нязвычайныя па сваёй сутнасьці, або прадмету, ці здараюцца нязвычайным спосабам, ці парадкам; перад якімі народ і вучоныя затрымоўваюцца з нявымоўным зьдзіўленьнем, бо бачныя вынікі, а прычына іх закрытая. Але няведа закрытае прычыны, якая даводзіць да астаўпеньня няверуючага, толькі завострывае зоркасьць веруючага і разумнага вока, каторае ў пэўных межах пазнае і разьмяркоўвае, што мае магчымасьць асягнуць сама прырода сваімі законамі й сіламі, а за іх межамі спасьцерагае мацнейшую, закрытую і ўсемагутную руку, якая стварыла сусьветны парадак рэчаў і ў ходзе спэцыяльнага парадку прычынаў і вынікаў прызначыла хвіліны і абставіны для Свае цудоўнае інтэрвэнцыі.

### Разуменьне Божых законаў і парадку захоплівае вучонага.

Божае кіравецтва створаным сусьветам так ў агульным, як і ў паасобных ніжэйшых парадках, бяз сумніву ня можа ня выклікаць захапленьня й энтузіязму вучонага, які ў сваіх пошуках адсланяе й распазнае сьляды мудрасьці Тварца і найвышэйшага Заканадаўцы неба і зямлі, Якога рука быццам таго нябачнага стырніка кіруе ўсёю прыродаю «цераз вялікае мора быцьця да розных прыстаняў, дзе кожнае стварэньне кіруецца, даным яму інстынктам» (Дантэ, «Неба» 1, 112-114).

Аднак магутныя правы прыроды чым-жа ёсьць у сутнасьці, як ня ценем і бледнай ідэяй глыбіні і непамернасьці Божага нарысу ў вялізарнай сьвятыні сусьвету?

«Найвышэйшым прывілеем вучонага, пісаў Кэплер, ёсьць распазнаць дух і знайсьці сьлед Божае думкі». Варта аднак прызнацца, што часта, дзякуючы візыям і вобразам нашага пачуцьця, тая думка зацемніваецца і адходзіць на другі плян, але калі ўвойдзе ў звычай вучонага думаць аб Богу ў сваёй працы, дык не зацемняць тае думкі ніякія абразы ўнутры і вонках сябе; тады згатоўнасьць душы натрапіць на сьлед Бога і распазнае Яго; думка аб Богу дасьць яму праўдзівы разгон і радасную нагароду за ўсе перанесеныя цяжкасьці ў часе досьледаў і адкрыцьцяў і, не зрабіўшы яго гордым, ўвядзе яго на шлях пакоры і скромнасьці..

### ...Але вучыць так-жа пакоры.

Ёсьць пэўным, што чым глыбей шукальнік веды і пазнаньня пасоўвае свае досьледы дзіваў прыроды, тымбольш пераконваецца аб сваіх нястачах адносна таго, каб пранікнуць і вычарпаць багацьце ідэальнае пабудовы Божае, законаў і нормаў, якія кіруюць ёю і тады стаюцца зразумелыя незраўнана прыгожыя словы вялікага Ньютона: «Я ня ведаю, якім я выдаюся для людзей, але перад самым сабою я выглядаю, як хлапчанё, што забаўляецца на беразе мора і цешыцца, калі ад

пары да пары знойдзе вышліфаваны каменьчык, ці прыгажэйшую ад звычайнае мушлю, калі ў тым самым часе вялізарны акіян праўды стаіць перад ім недасьледжаны». Гэтыя словы Ньютона сёньня, пасьля трох стагодзьдзяў і ў сучасным уздыме веды ў галіне фізыкі і прыроды, гучаць больш праўдзіва чым калісь.

Аб Ляплясе апавядаюць, што калі ён ляжаў хворы, а прыяцелі, стоячы каля яго, прыпаміналі ягонае вялікае адкрыцьцё, дык адказаў з горкаю ўсьмешкай: «Тое, аб чым мы ведаем, ёсьць маленькім, але тое, чаго мы ня ведаем, бязьмежным».

Ня менш унікліва сьцьвердзіў перад 59 зьсздам нямецкіх вучоных і мэдыкаў слаўны Вэрнэр фон Сімэнс, адкрыўца правіла аўтоштуршка дынамо: «Чым глыбей пранікаем у ва ўлоньне гармалійна разьмеркаваных сілаў прыроды, кіраваных вечнымі, нязьменнымі законамі, але тым ня менш так закрытае для нас, для поўнага пазнаньня, тым хутчэй прыбліжаемся да пакорнае скромнасьці, тым вузейшым выглядае круг нашае веды, жывейшым становіцца наш высілак, каб усьцяж больш зачэрпаць з тае невычарпальнае крыніцы пазнаньня й магутнасьці, і вялікім стаецца нашае зьдзіўленьне неабмежаванай мудрасьці парадку, што пранікае ўсё створанае».

Запраўды наша веда прыроды ёсьць скромнаю ў сваім абсягу і недасканалаю ў зьмесьце. Тым ня менш у адным трактаце аб электромагнэтычнай тэорыі сьвятла можна было прачытаць наступнае: «Ці-ж Бог напісаў гэтыя формулкі?»

Бясспрэчна раўнаньні Максвэля зьяўляюцца гэніяльнымі, але і яны нароўні з кожным падобным поступам тэарэмаў фізыкі, ёсьць залежныя і зьвязаныя з г. зв. закругленьнем і ідэалізацыяй канкрэтнае рэчаіснасьці, без чаго ёсьць нематчымы плодны разбор матэматыкі. Як часта сёньня можна спаткаць толькі частковыя неагульныя разважаньні замест цьвёрдых законаў? Дзе ёсьць рэгулярны стан садзеяньня нясканчонага ліку асаблівых зьявішч, вучоны мусіць здаволіцца вызначэньнем характару й формы зьместу масаў паводля разважаньняў праўдападабенства і, неазнаёмлены спэцыяльна з іхняй асновай дынамікі, павінен фармаваць статычныя законы.

Прагрэс навукі ня спыняецца. Добра ведама, што наступаючыя адны па другіх этапы ў сваім ходзе не заўсёды праходзілі шлях, які ад першапачатковых досьледаў і адкрыцьцяў давёў проста да гіпатэзы, ад гіпатэзы да тэорыі і ўканцы да асягненьня пэўнае і бясспрэчнае праўды. Аднак здараюцца й адваротныя выпадкі ў якіх досьлед адбываецца па крывой лініі; выпадкі, у якіх тэорыі, што здаваліся быць бяссумніўнымі, да якіх схілялася павага вучоных, з часам падаюць на ступень гіпатэзаў, каб пасьля быць зусім пакінутымі.

Не зважаючы аднак на няўнікнёныя няпэўнасьці і збочаньні з простае дарогі ў кожным людзкім высілку, прагрэс навукі і веды ня знае ані перапынку, ані скокаў у час, калі шукаючыя праўды перадаюць адзін другому сьветач досьледаў, каб асьвяціць разгорнутыя старонкі кнігі прыроды перапоўненае загадкамі. Падобна стварэньням, — заўважвае анельскі Доктар сьв. Тамаш, — што родзяцца згодна з правамі прыроды, паволі разьвіваюцца ад недасканалага да дасканалага, — здараецца й людзям у адносінах пазнаваньня праўды. На пачатку яны здабывалі крыху праўды, а пасьля крок за крокам дайшлі да большага, прыпісваючы ня прыпадку, ці шчасьліваму здарэньню пачатак сьвету і таго, што магло-б нарадзіцца, але прыглядзеўшыся пільней праўдзе, апіраючыся на яўных паказальніках і доказах, зрабілі высьнавак, што прыродныя істоты кіруюцца нейкім правідам. І запраўды, чым быў-бы нязьменны і пэўны бег руху нябёсаў і зораў ды іншых прыродных твораў, калі-б гэтым усім не кіраваў над усё Вышэйшы Розум? (Сьв. Тамаш «Пралог у кнігу Іова»).

Новымі і шырэйшымі шляхамі чалавецтва крочыць уперад, але заўсёды йдзе, маўляў той паломнік, у кірунку глыбейшага пазнаньня законаў дасьледжанага й недасьледжанага сусьвету так, як гоніць яго ўроджанае чалавеку жаданьне праўды; аднак і пасьля тысячагодзьдзяў людзкія досьледы аб унутраных нормах і рухаючых сілах, аб тым, як паўстаў, як існуе сьвет, а тымбольш Божыя пляны, Яго ўсёпранікаючы, парушаючы і кіруючы ўплыў — для чалавека ёсьць і астанецца недасканалым і бледным вобразам боскіх ідэяў.

Перад дзівамі вечнае прамудрасьці, што ўсім кіруе ў непахісным парадку і ўсё скіроўвае да нябачных партоў, думкі-досьледы вучонага ёсьць сьляпымі і нямымі, і тут мейсца для пакорнае й узнёслае адарацыі, вычуўшы перад сабою цуд стварэньня, пры каторым чалавек ня быў прысутны і каторага людзкая рука ня можа насьледаваць, але яго вока можа бачыць нявымоўны блеск магутнасьці Бога. Перад шматлікімі нявыясьненымі тайнамі парадку і сувязі законаў бесканечнага макракосмаса і бесканечнага мікракосмоса трэба, каб людзкі гэній паўтарыў кліч: «О, вышыня багацьцяў прамудрасьці і веды Божае; як недасяжныя прысуды Яго і недасьледныя шляхі Ягоныя«» (Рым. 11, 33).

Шчасьлівы той вучоны, які ў пралёце праз шырокія нябесныя і зямныя гоні ўмее чытаць у аграмаднай кнізе прыроды і чуць крык яе слова, выяўляючы людзям сьлед, пакінуты Богам у стварэньні і гісторыі сьвету...

Сьляды ног і выціснутыя Божым пальцам знакі ёсьць нясьціральныя: ніякая рука чалавека ня можа іх замазаць; сьляды і знакі — гэта доказы адкуль выплывае Боскае для ўсіх розумаў і здавалася-б, што гэта для вялікіх вучоных пісаў

апостал народаў: «Тое, што магчыма ведаць пра Бога, аб'яўлена для іх, бо Бог выявіў ім, бо нябачнае Яго, вечная Ягоная сіла і Боскасьць, сатварэньням сьвету робяцца пазнавальнымі праз разважаньне аб тым, што створана» (Рым. 1, 19-20). На адным з надпісаў, якія ўпрыгожвалі магілу вялікага астранома А. Сэккі чыталася: «Ад агляданьня неба да Бога шлях кароткі».

Гледзячы на сьвет з гэтае найвышэйшае астранамічнае абсэрваторыі, што стаіць у нагах Бога, ня трудна зразумець, якім чынам прырода з усімі яе істотамі бязупынна і бяз вынятку дзейнічаюць, паводля нахілаў іхняе рознаякае натуры, але Найвышэйшаму Тварцу, Кансэрватару і Валадару ніякі прыродны нахіл ня можа супраціўіцца, бо Ён стаіць вышэй ад усіх бытаў і законаў Ім самым усанкцыянаваных і вызначаных для стварэньняў. Толькі Ён сам можа дзеля разумных прычынаў у паасобных выпадках памяшаць, або павярнуць у іншым кірунку дзейнасьць такіх нахілаў.

Унівэрсальны дух, паводля формулы вынайдзенае Ляплясам, які ў паняцьці матэрыялістаў павінен быў абымаць так-жа падзеі залежныя ад думкі і ад вольнае волі, зьяўляецца ўтапійнаю мрояй у абліччы захопліваючае рэчаіснасьці космаса, які затрымоўвае ўвагу вучонага: наадварот — нявымоўна рэальнай ёсьць тая Божая мудрасьць, якая знае і разьмяркоўвае кожны найменшы атам з яго энэргіямі, вызначае яму ягонае мейсца ў складзе створанага сусьвету, — тая найвышэйшая Мудрасьць, Каторае слава пранікае ўвесь сусьвет і яшчэ большым сьвятлом яна палымнее ў небе».

З італійскае мовы пераклаў **а. др. Ч. Сіповіч.**

# Вялікодныя звычаі на Беларусі

Сьвята Хрыстовага ўваскрасеньня -- Вялікдзень на Беларусі суправаджаецца шматлікімі і рознаякімі пазабагаслужбовымі абрадамі і звычаямі, якія ў бальшыні так глыбокія сваім зьместам, як і самае Сьвята. І з гэтага гледзішча хочам да іх прыглянуцца.

Не па ўсёй Беларусі яны аднолькавыя, бо-ж ведама, «што край, то й звычай», аднак у галоўных рысах яны ня шмат розьняцца.

Да Вялікадня пачынаюць рыхтавацца з пачаткам Вялікага Посту, бо Вялікдзень зьяўляецца канцом гэтага Посту. «Стаіць мост на 7 вёрст, а ўканцы маста залатая вярста».

Беспасрэдная падрыхтоўка да годнае сустрэчы Вялікадня пачынаецца ад Вербніцы. У гэты тыдзень найбольш спавядаюцца — ачышчаюць душу ад грахоўнага бруду і чысьцяць ды прыбіраюць хату і самі стараюцца памыцца. Дзеля гэтага нават Вялікі Чацьвер называецца Чысты Чацьвер. Тады нават падпечак вымятаюць, адкуль і паўстала прыказка «Вымету разком, вывезу вазком». У гэтым часе так-жа рыхтуецца чыстая, а калі магчыма, дык новая вопратка.

Апошнія дні Вялікага Тыдня прызначаны для гатаваньня ежы для разговін і ўсяго Сьветлага Тыдня. Найлепшыя прысмакі, якія мог мець беларус, дык іх захоўваў для Вялікадня.

З асабліваю павагаю хварбуюцца яйкі найчасьцей на чырвона; дзе ёсьць час і магчымасьці дык іх расьпісваюць рознымі ўзорамі, адкуль і назвалі іх пісанкамі. Чырвоныя вялікодныя яечкі спатыкаюцца амаль па ўсім хрысьціянскім сьвеце і ўсюды маюць тую самую сымболіку схаванага жыцьця, якое выклікаецца да актыўнага жыцьця жыватворчым цяплом ці то наседкі, ці сонца, сі Самога Бога.

Аб царкоўных багаслужэньнях так-жа не забываюцца. У вёсках, адлеглых ад цэркваў, амальпраз цэлы тыдзень мочыцца ў газе некалькі клубкоў, якімі асьвечваюць дарогу, йдучы на «Усяночную» і царкоўны пагаст падчас крэснага ходу.

Найбольш людна ўдзельнічаюць на «Страсьцях» у Вялікі Чацьвер і на самай «Усяночнай».

Самыя страстныя багаслужэньні маюць у сабе нешта такое, што на'т сваёю расьцяглсьцю ня нудзяць вернікаў, а наадварот дадаюць нейкае чароўнае сілы. Глянуць толькі варта, як у Чацьвер, позна ўначы, выліваецца з царквы нязьлічаная грамада з запаленымі сьвечкамі ў руках, быццам нейкая вялікая рака, як яна потым дзеліцца на дробныя раўчукі, каб гаручымі данесьці іскаркі тых запаленых сьвечак дамоў, быццам сымбаль тае запаленае любові Хрыста, якою Ён закрануў сэрцы на Апошняй Вячэры і на Крыжы.

Асабліва люднае багаслужэньне ўначы на сам Вялікдзень — «Усяночная». Хто толькі можа, апранаецца ў найлепшую вопратку і сьпяшаецца ў царкву, каб паслухаць багаслужэньне і перажыць радасьць Вялікага Сьвята Уваскрасеньня.

Пасьля багаслужэньня адбываецца сьвячэньне ўсяго таго, чым маюць разгаўляцца.

Звычайна з усходам сонца канчаецца багаслужэньне і вернікі вяртаюцца дамоў. Увайходзячы ў хату кожны вітаецца патрыйным «Хрыстос уваскрос!».

Як толькі пазьбіраюцца ўсе хатнія, дык, памаліўшыся, сядаюць за стол разгаўляцца. Стол накрыты найбагацей і найсытней, як толькі кожнаму пазваляе ягоная заможнасьць. Настрой звычайна вельмі ўрачысты, бо-ж і стол накры-

ты чыстаю настольніцаю ды сытна застаўлены, і самі апрануты пасьвяточнаму, і весьняныя праменьні ранешняга сонца разьясьняюць хоць і ўбогую хату, ды яшчэ некалькі слоў гаспадара, падчас абдзельваньня кожнага сьвянцоным яечкам, дапаўняюць хатнюю вялікодную ўрачыстасьць.

Пасьля разгаўленьня, старэйшыя, ня спаўшы цэлую ноч, звычайна супачываюць, а моладзь; — ёй няма калі спачываць, бо на вуліцы ўжо пачынаюць зьбірацца гурткі, каб туляць у біткі, або качаць яйкі; іншыя ладзяць карагоды, гушкалкі, а яшчэ іншыя зьбіраюцца да валачобнага паходу.

Дзеці стараюцца адведаць усіх родных, каб атрымаць чырвонае яечка.

Як толькі сьцямнее ў нядзелю вечарам, а ў некаторых ваколіцах у панядзелак вечарам, пад вокнамі крайняе хаты ў кожнай вёсцы разьлягаецца гучнае «Хрыстос васкрэсе...», а за ім ідуць валачобныя песьні. Да позна ўначы абходзяць валачобнікі хату за хатай, а іх сьпеў у начной цішы асабліва парушае сэрца беларуса.

Царкоўнае сьвята Вялікадня трывае толькі тры дні, але на Беларусі даўней яго звычайна сьвяткавалі цэлы тыдзень, прыпісваючы кожнаму дню асобае значэньне: серада — градавая, чацьвер — ад грому, пятніца — ад пасухі, субота —ад упадку скаціны.

У гэтыя радасныя дні беларус не забываецца і аб сваіх памёршых родных: у аўторак пасьля праводнае Нядзелі сьвяткуюць Радаўніцу, каб падзяліцца тою радасьцю, якую Хрыстос стварыў памёршым адчыніўшы ім Рай. Таму «на Радаўніцу да абеду пашуць, па абедзе плачуць, а вечарам скачуць».

---

Усе вышэйпералічаныя абрады пададзены ў найбольш сухой форме, як-бы іх мог назіраць пастаронньні глядач, аднак і гэтае пералічэньне сьведчыць аб запраўды глыбокай і шчырай радасьці, якая іх вытварыла й падтрымоўвала. Калі-ж хто меў магчымасьць хоць раз у жыцьці ня толькі да іх прыглядацца, але і перажываць, дык той напэўна можа сьцьвердзіць, што адна хвіліна вялікоднае радасьці больш варта, чымся сотня нудных гадоў.

Тут само сабою напрошваецца пытаньне: Як была магчыма на Беларусі гэткая радасьць, калі праз цэлыя стагодзьдзі кожны крок жыцьця беларуса «сьлязою значыўся»?

Якраз на тле сумнага жыцьця і паўстала вялікодная радасьць, бо Вялікдзень зьяўляецца сьвятам перамогі і ў надпрыродным і ў прыродным парадку — перамогі Дабра над Злом, Праўды над Крыўдай, жыцьця над сьмерцю, трыумфу Божага права над людзкою злобаю. У прыродзе адбывалася так-жа перамога чароўнае вясны над лютаю зімою — ажываньне прыроды з зімовага сну. А найважнейшае, што ўсе гэтыя перамогі беларус успрыймаў не пасыўна, але якнайбольш актыўна, ён іх суправаджаў унутранымі перамогамі над сваімі людзкімі слабасьцямі:

Духовая перамога — 40-дзённы пост.

Душэўная перамога — шчырая споведзь.

Рэлігійная перамога — захаваньне ўсіх абрадаў.

Вонкавая аднова — парадак у хаце і гаспадарцы.

Якую маральную і духовую моц патрэбна, каб асягнуць гэтыя перамогі, які гарт волі, можна пабачыць з таго, што гатуючы скаромныя стравы, прыпраўляючы розныя прысмакі і ласункі, пякучы булкі і пасхі, гаспадыня за ўсякую цану старалася не аскароміцца. Больш таго вельмі часта гаспадар і гаспадыня ярказ тады, значыць у Вялікую Пятніцу і Суботу пасьцілі шчырым постам, цяжка працуючы ад цямна да цямна. Моладзь не ладзіла гульняў, ні сьпеваў; музыка не закранаў сваіх інструмантаў, хоць наставала вясна і ўсё напаўнялася радасьцю. Не зразумеюць гэтага ніколі тыя, якія дабравольна не пасьцілініводнага дня, якія ня здольныя да найменшае ахвяры. Не для іх гэткія перамогі, але і не для іх вялікодная радасьць.

Перамагчы адзін раз ворага, гэта вялікая перамога, але няма большае перамогі, як перамагчы самога сябе, перамагчы штодня і штохвіліны. З гэткімі перамогамі сустракаў беларус Вялікдзень.

У імя чаго рабіліся і робяцца гэтыя ахвяры і перамогі над сабою?

У імя Божае. Каб разам з Хрыстом удзельнічаць у Яго цярпеньні і разам з Ім стацца ўдзельнікам вечнае радасьці і ўваскрасеньня да вечнага жыцьця.

Вось той глыбокі сэнс вялікодных абрадаў і крыніца іхняе радасьці. Хто сёньня ў іх хоча дабачвацца толькі рэшткі старых паганскіх звычаяў сьведчыць толькі сам аб сваім паганстве. Бясспрэчна шмат абрадаў сягае дахрысьціянскіх часоў, але іх хрысьціянства на толькі перарадзіла нутрана і вонкава, што яны служаць выключна для духовага дабра, для збаўленьня душы. Таму яны і сёньня заслугоўваюць на найшчырэйшае і найшыршае захаваньне і культываваньне.

Мы перажываем аднак выняткова час і шмат каму замест радасных валачобнікаў прывалачэцца цяжкі сум і цяжкія ўспаміны, замест вясёлых сьпеваў — горкія сьлёзы. Усім тым хацелася-б даць у рукі гэтых пару радкоў, да іх зьвярнуцца з прывітаньнем валачобнікаў, каб запаліць хоць іскру вялікоднае радасьці:

Там на гары Галгофце Іудэі стаялі,
Ісуса Хрыста цярновым вянком каранавалі
І на Крыж прыбівалі.

Пад Крыжам Яго Маці стаяла,
Моцным голасам казала:
«Сын Мой пракрасны
«У вачох Маіх ясны,
«Ты на Крыжы паміраеш,
«Мяне адну пакідаеш!»
«Ня плач, Ня плач! Мая Маці!
«Я ў тры дні ўваскросну,
«Усяму міру радасьць прынясу».
Мы гэту радасьць зьвяшчаем,
Вас з Сьвятам вітаем:
Хрыстос Уваскрос! Хрыстос Уваскрос!
Хрыстос Уваскрос!

**а. Леў.**

# „Чаму я выракся камунізму?"

Выясьненьні экс-выдаўцы камуністычнага штодзеньніка ў Лёндане.

Гулкім рэхам адгукнуўся амаль па цэлым сьвеце сэнсацыйны выпадак Дугляса Гайда, сябры ангельскае камуністычнае партыі ад 20-і год і ад 5-і год выдаўцы камуністычнага штодзеньніка ў Лёндане «Дэйлі Воркэр», які цяпер выступіў з партыі, зрокся свайго становішча і разам з сваею жонкаю і дзецьмі прыняў каталіцтва.

Што прычынілася да гэтага радыкальнага кроку? На гэта адказвае сам Дугляс Гайд у артыкуле зьмешчаным у «International News Service».

«Ад часу калі ўрад СССР, трываючы ў сваім антыэўрапэйскім настроі, не згадзіўся на плян Маршала, я пераканаўся, што мне немагчыма аставацца далей сябрам камуністычнае партыі. Але яшчэ і перад адмоваю ад пляна Маршала, савецкая палітыка была яўнай і шкоднай: яна імкнулася прывесьці на магчыма ніжэйшы ўзровень тыя краіны, што маюць карыстаць з дабрадзействаў амэрыканскае дапамогі. У першую чаргу савецкая палітыка накіроўваецца на разьбіцьцё палітычнае і эканамічнае прамысловасьці В. Брытаніі.

Я будучы кіраўнікам лёнданскага выданьня «Дэйлі Воркэр» дасканала пераканаўся ў чым сутнасьць савецкае палітыкі. А вось яўныя доказы тэтага: напрыклад: ангельская камуністычная партыя атрымала копію рапарту экспэртаў В. Брытаніі аб умовах, калі-б Англія ня прыняла і не правяла пляну Маршала. Гэты рапарт прадбачвае, што зьявілася-б ад двох да трох мільёнаў безработных і што жыхарства карыстала-б з меншае колькасьці калёрыяў.

Камуністычная партыя замест таго, каб пайсьці з помачу для ўраду і для жыхарства, сьведама павяла бессаромны байкот прадукцыі і цэлы сьцяг агітацыяў і забастовак, бяз згоды іхніх сындыкатаў працы.

Такім чынам ангельскія камуністы паказалі, што жадаюць падкасіць сучасны жыцьцёвы ўзровень жыхарства наатул, а трох мільёнаў работнікаў у асаблівасьці і што яны жадаюць пашкодзіць прадукцыі цэлае краіны, абы толькі пасеяць бядоту, хаос і незадаваленьне, і ўсё гэта выконваюць з неверагодным цынізмам.

Палітычныя дырэктывы для «Дэйлі Воркэр» дыктуе камуністычная партыя, каторая з свайго боку сьлепа трымаецца дыктанда савецкае прэсы, ТАСС'у, маскоўскага радыя і выдаванага ў Лёндане савецкаю амбасадаю часапісу. Больш таго, ад часу афармленьня ў Белградзе Комінформу, камуністычны штодзеньнік стаецца ўсьцяж больш зьядлівым у сваіх нападах і ў сваіх усёразьбіваючых падыходах».

Асаблівы ўплыў мелі на яго падзеі ў Чэхаславаччыне:

«Я зжахнуўся падзеямі ў Чэхаславаччыне. Тое, што там дзеялася і спосаб, як яно адбывалася, ёсьць паказчыкам таго, што магло-б здарыцца ў Італіі, у Францыі, а нават і ў Англіі, калі-б абставіны на гэта дазволілі.

Для мяне сталася ясным, што той рух, на карысьць якога я працаваў і так доўга змагаўся, імкнецца зьнішчыць тую свабоду, для якое быццам вядзе змаганьне...»

«Думаю, што мой выпадак не належыць да рэдкасьці: мужчыны і жанчыны, якія маюць яшчэ магчымасьць думаць собскай галавой, ня чураюцца выявіць свайго вялікага незадаваленьня з усяго таго, што дзеецца пад знакам чырвонага таталітарнага гвалту, які намагаецца давесьці сьвет да цынізму і духовае немачы.

Але калі зьвернем увагу на тое, — што зьяўляецца праўдаю, — што Каталіцкая Царква бярэ на сябе ініцыятыву правадніка і ўсьцяж болей пашырае сваю сацыяльную дактрыну з большаю моцай і адвагай, — дык ёсьць яшчэ добрыя даляглядзі і надзеі для ўсяго хрысьціянства».

Магчыма, што для беларусаў, якія на уласнай скуры перанесьлі дактрыны чырвонае дыктатуры, нічога новага рэвэляцыі Д. Гайда ня прыносяць, аднак яны зьяўляюцца доказам, што і англасасы пачынаюць разумець сутнасьць камунізму і пачынаюць шукаць выхаду і ратунку ад яго нават тыя, якія даволі глыбока залезьлі ў чырвоны нерат.

# ЗЛОДЗЕЙ

Праз вастрожныя краты нясьмела заглянуў першы прамень веснавога сонейка і асьвяціў пажоўклыя абліччы крамольнікаў, якія былі сабраныя ў камэры Нр. 30.

Усе глянулі на акно, быццам вітаючы новага госьця.

— А, глядзі і сонца да нас, — азваўся стараста. — Ну, ты, брат, ня наш кампаніён, цябе за кратамі ня ўтрымаеш.

— Яшчэ толькі гэтага й не хватала, каб сонца ў турму пасадзіць, так-жа надумаўся. — Гаварыў, не падымаючы галавы, славуты злодзей Сьцёпка.

— А што думаеш, каб маглі, дык-бы не пасадзілі? Не? — Ертачыўся стараста.

— Ну ды за што? За якую правіну? Ты ўжо, відаць, распачынаючы другі дзясятак у гэтых мурох пачынаеш з глузду зьязджаць.

— Я з глузду? Галава твая вароняя. Калі мы даўшы рукам волю і пагуляўшы што называецца трапілі сюды, дык чаму сонца не магло трапіць за нейкія краты, апёкшы занадта нейкага чараватага, ці абсмаліўшы празмерна прыжывалку якога небудзь туза, або высмаліўшы збожжа не аднаму абшарніку? Гэта, брат, крамола не тваею, што нейкага там інжынера з футра вытрас.

Усе засьмяяліся, а нейкі ціхі голас з кута дадаў.

— Але-ж у цябе і фантазія.

— Гэта толькі, што ня могуць, — прадаўжаў стараста, — а каб маглі, дык-бы схавалі так, што хоць ты й рахуешся непераможным злодзеям, а напэўна-б ня выкраў.

— Што, я ня выкраў? — ажывіўся Сьцёпка. — Гэта-то дудкі.

— Ведаеш Сьцёпка што? — азваўся ні адтуль ні адсюль яго сусед, — пакажы, брат, пасьлязаўтра свой спрыт, а то ўжо знудзілася бяз ніякага нічога.

— Пасьлязаўтра? а што мае быць пасьлязаўтра?

— Што? Ды-ж Вялікдзень! І тут будзе багаслужэньне. Вось украдзі чашу падчас службы, гэта будзе штука, лепш чым сонца красьці!

— Дзела! — крыкнуў стараста, але адразу сьцішыў голас і паказаў на дзьверы.

— Над гэтым варта падумаць, — казаў Сьцёпка, — бо-ж на Вялікдзень у царкве, здаецца, усе дзьверы адчынены.

Пасыпаліся прыцішаныя сьмехі, жарты і праекты...

---

На Вялікдзень у турэмнай капліцы было выняткова поўна, а Сьцёпка знайходзіўся амаль на самым перадзе з левага боку. Даўно нячутыя сьпевы закранулі яго да жывога. Чыстым, але ціхім голасам некалькі харыстых з асаблівую любасьцю паўтаралі:

«Хрыстос васкрэсе із мертвых...»

Сьцёпка спачатку намагаўся абараніцца ад таго няпрошанага ўражаньня і стараўся абмяркоўваць свой плян. Ён то заглядаў у аўтар, то на сяброў, але гукі сьпеву так казыталі яго душу, што яго кідала то ў жар, то ў холад, то нейкія мурашкі бегалі па яго скуры. Думкі яго разгубіліся і ня сьцяміўся, як прачыталі евангельле і сьвятар зьвярнуўся да прысутных з словам.

Вялікодны настрой, турэмная атмасфэра, абліччы вязьняў, відаць моцна закранулі самога сьвятара і ён чым далей, дык гаварыў з большым запалам.

«...Хрыстос уваскрос і прынёс радасьць усяму сьвету і нікога з гэтае радасьці ня выключае; усіх ад зямлі ўзьняў да Неба, дзе-б яны не знайходзіліся ці ў раскошных палацах, ці за кратамі турмы. Гэтую радасьць Ён нясе ўсюды, не абмінае і турмы. Сам, Ён, Той уваскросшы Хрыстос, прыйходзіць сюды да вас. Як касулі сонца ня знаюць ні замкоў ні кратаў, пасылаючы ўсюды сваё жыватворнае цяпло і сьвет, так і Хрыстос Сам усюды нясе Сваю ласку, Ён прыходзіць сюды, за гэтыя вастрожныя краты, бо тут яго людзі ў палоне граху, бо тут вы, якіх Ён адкупіў сваімі мукамі. Дарагую цану заплаціў Ён за кожнага, аддаў усю сваю кроў і веліч. Як на Галгофце Ён быў у таварыстве злачынцаў, так і тут. Вось Ён сёньня той самы (тут сьвятар высока ўзьняў крыж), а праваруч і леваруч Яго злачынцы. Магчыма, што між вамі ёсьць такія, што і сёньня з Яго насьміхаюцца, як калісь той, што быў леваруч, але пэўна ёсьць шмат такіх, што, як той праваруч, зьвяртаюцца да Яго, кажучы: «Госпадзе, успамяні мяне ў валадастве Тваім!» Да іх Хрыстос заўсёды адказвае тымі самымі славамі ласкі і прабачэньня...»

Далейшых слоў Сьцёпка не дачуваў. У яго душы адбывалася нешта нябывалае. Розныя абразы, пастановы, мітусіліся адны за другімі, змагаліся між сабою, але нарэшце ім авалодала непераможнае жаданьне, неадкладна стаць праваруч Хрыста.

Калі ўканцы казаньня сьвятар прыцішаным голасам казаў:

«Хрыстос вас любіць бязьмерна і кліча вас быць з Ім, ісьці сьледам за Ім. Хто хоча стаць праваруч Яго, хай стане зараз...»

— Я! — ня вытрываў Сьцёпка, і падыйшоў праваруч сьвятара.

Сталася нешта, чаго ніхто не спадзяваўся; усе замерлі і сам сьвятар на мамэнт разгубіўся.

— Я так-жа злодзей, але я хачу быць у таварыстве таго злодзея, што быў на крыжы права-

руч Хрыста. Можа я большы злодзей, як той, бо я яшчэ сёньня хацеў украсьці ў Яго чашу, дык няхай мяне за гэта адпаведна пакарае...

— Не, Ён цябе не пакарае, але абдыме, як свайго шчырага сябру. (Тут сьвятар закрануў Сьцёпку крыжам за плячо) і ачысьціць цябе ад усіх тваіх грахоў, каб ты быў чыстым і дасканалым.

Трымаючы крыжам за плячо, сьвятар падвёў Сьцёпку да абраза Хрыста.

— Вось выспавядайся ў Яго аблічы.

Як турма турмою і як капліца тая была капліцаю, ня чулі яшчэ такое споведзі...

Як цёмныя хмары разладоўваюцца пярунамі і навальніцаю, маланкамі і ліўнем, так душа Сьцёпкі пазбывалася грахоўнага цяжару. Пасьля шчырае споведзі буйныя сьлёзы пацяклі з яго загартаваных да ўсяго вачэй. Як ён не стараўся іх стрымаць, але ня змог. Тут-жа перад абразом Збаўцы ўпаў на калені, закарэлымі рукамі закрыў сваё аблічча, але ўсяроўна праз пальцы прасочваліся крапліістыя сьлёзы, але на душы рабілася лягчэй і ясьней.

Раптам сонечны прамень упаў на абраз Хрыста, перад якім ён кленчыў, Сьцёпка схамянуўся.

— А, і ты тут! — прамільгнулі ў галаве, недзе чутыя словы.

Ён падняў вышэй галаву, глянуў на аблічча Хрыста і здалося, што яно ўсьміхаецца.

Сьцёпка перажываў Вялікдзень з такім настроем, што нават камэрны стараста галаварэз ня ведаў, што сказаць на гэта. На аблічы зьявіўся нейкі нявымоўны выраз такое яснасьці, што калі адзін з канакрадаў аднакамэрнікаў прабаваў насьміхацца:

— Ну сёньня наш Сьцёпка...

— Пакінь, пакінь яго, — ня даў дакончыць стараста.

— Эх, сябры, — гаварыў Сьцёпка, — аднак ёсьць на сьвеце такая радасьць, якое ня можа скаваць ніякая людзкая сіла, толькі я выказаць тэтага ня ўмею, бо гэта цяжэй мне чым красьці.

**Анатоль Жменя.**

# ЕРУЗАЛІМ

(Прадаўжэньне)



АГУЛЬНЫ ВІД НА АЛІЎНУЮ ГАРУ СЁНЬНЯ.

## НА АЛІЎНАЙ ГАРЫ.

Крыху далей за базылікаю Кананьня знайходзіцца царква сьв. Марыі Магдалены. Адгэтуль можна зайсьці на Аліўную гару йдучы каля мураванае агарожы ўвесь час падымаючыся ўгару. Леваруч мінаем руіны аднае з сьвятыняў пабудаванае крыжакамі і дайходзім да прыгожае францішканскае капліцы «Госпад плача».

На гэтым мейсцы у Вербную нядзелю, калі Хрыстос меўся ўрачыста ўехаць у Еруз алім, аглядаючы места, як на далоні, бачучы перад сабою старую Сьвятыню поўную характва, і ведаючы, што незадоўга ўсё гэта ляжа ў грузах ра-

зам з тысячамі людзей — плакаў над гэтым няўдзячным местам, каторае не пазнала часу Яго адведзінаў.

Ідучы далей тою самаю дарогаю, можна дайсьці да сьвятыні «Pater Noster», што знайходзіцца праваруч, а леваруч крыху далей відаць высокую вежу расейскага манастыра. Перад гэтым манастыром, з левапа боку, знайходзіцца

## КАПЛІЦА УШЭСЬЦЯ,

адкуль Хрыстос, ў прысутнасьці сваіх апосталаў і вучняў, адыйшоў у Неба. Гэта капліца цяпер належыць да магамэтанаў, але на сьвята Ушэсьця, яны пазваляюць хрысьціянам на адправу багаслужэньняў. А кажнага, хто хоча адведаць гэтае сьвятое мейсца, ахвотна заўсёды пушчаюць.

Гэтае каплічкі з-за муроў ня відаць. Перад самым ўваходам у каплічку знайходзіцца невялічкі пляцык на якім пабудаваны мінарэт. Гэткіх мінарэтаў у Ерузаліме шмат; гэта высокія вежы, з каторых магамэтанскія муэзіны заклікаюць сваіх вернікаў на малітву.

Можа нехта зьдзівіцца, што гэткае дарагое для хрысьціянаў мейсца знаходзіцца ў руках магамэтанаў. Трэба аднак ведаць, што яны з даўных давён валодалі Палестынаю і толькі падчас першае сусьветнае вайны ангельцы адабралі гэты край ад туркаў, але пакінулі ім самаўрад і новых парадкаў заводзіць ня вельмі сьпяшаюцца.

Капліца Ушэсьця звонку васьмібочная, а ўсярэдзіне круглая. Купал у ёй ужо работы магамэтанаў. Усярэдзіне капліца пустая, толькі мейсца, дзе ў скале відаць невялікае ўглыбленьне, мала падобнае да чалавечага сьледу, вылажанае мрамарам. Апавядаюць, што гэта сьлед левай нагі Хрыста.

Навокал каплічкі агарожа таксама васьмібочная, але нерэгулярнае формы, мураваная. Сподняя частка гэтага муру гэта частка даўнейшае сьвятыні Ушэсьця, збудаванае тут яшчэ сьв. Аленаю. На гэтым мейсцы крыжакі былі пабудавалі зноў сьвятыню, але і ад яе асталіся толькі тыя руіны, якія можна бачыць сёньня пад мурам.

Вернемся цяпер крыху назад і ўвойдзем у названую ўжо раз сьвятыню «Pater Noster»,

## «ОЙЧА НАШ»,

пры якім знайходзіцца манастыр кармэлітанак.

Тут калісь была базыліка сьв. Алены, але потым зруйнаваная зусім. У XII в. крыжакі пабудавалі тут сьвятыню пад назовам «Pater Noster», бо праўдападобна на гэтым мейсцы Хрыстос навучаў гэтай малітвы сваіх вучняў. Але і гэная сьвятыня была зруйнавана, а цяперашняя разам з манастыром пабудавана ў 1866 г., калі гэтае мейсца закупіла адна француская князёўна, сваячніца Напалеона III і аддала кармэлітанкам.

У самай сьвятыні і на сьценах прысенкаў вісяць вялікія табліцы, як дзьверы, з выпісанаю на іх малітваю «Ойча наш»; кожная табліца ў іншай мове.

На мейсцы даўнейшае базылікі цяпер будуецца новая базыліка на чэсьць Найсьвяцейшага Сэрца Хрыстовага.

Тут на гэтым самым пляцу пры агарожы ёсьць даволі прасторная падземная капліца «Верую», кажуць, што тут апосталы ўкладалі першы Сымбаль веры, званы апостальскім.

Дарога, каторай мы прайшлі на Аліўную гару, хоць найбольш стромая, але найкарацейшая. Ёсьць і другія дарогі, на якіх езьдзяць нават самаходы, але вельмі кружныя.

Калі пайсьці ад касьцёла «Pater Noster» на ўсход, маючы леваруч арабскія забудаваньні, а далей мураваную агароджу расейскага манастыра, дойдзем да невялікага францішканскага манастыра

## БЭТФАЖ (Бэтфагія).

Гэта тое мейсца, адкуль Ісус адбыў трыумфальны ўезд у Ерузалім у Вербную Нядзелю.

Цяпер кожны год на Вербніцу ерузалімскае каталіцкае жыхарства, разам із сваім патрыярхам, адбывае адгэтуль працэсыю з пальмамі ў руках, сьпяваючы рэлігійныя песьні.

За часоў Ісуса недалёка ад гэтага мейсца была вёска Бэтфаж, якое цяпер няма.

Яшчэ далей, на супроцьлеглым збоччу Аліўнае гары пры дарозе да Ерыхону знайходзіцца

## БЭТАНІЯ,

дзе за часоў Ісуса быў дом Лазара і яго сёстраў Марыі й Марты; дом таго самага Лазара, катофага Ісус уваскрасіў, хоць цела Лазара зачало было раскладацца. Гроб Лазара можна аглядаць і цяпер, Паарабску Бэтанія называецца Аль-Азар'ях; жывуць там арабы магамэтане. Між Бэтаніяю і Ерузалімам курсуе самаход.

Калі вернемся ад Гэтсэмані і пойдзем дарогаю ў кірунку места, прайшоўшы каля базылікі Кананьня і гробу Багародзіцы — дык на завароце дарогі будзем мець леваруч каплічку сьв. Сьцяпана, якая збудавана на памятку ўкаменаваньня першага мучаніка за веру.

Крыху далей дарога заварочваецца ўлева і, уздымаючыся падгару, вядзе проста да старога муру. Гэткім мурам Старое Места абведзена кругом. Гэты мур мае некалькі брамаў. З гэтага ўсходняга боку, апрача брамы сьв. Сьцяпана, праз каторую мы ўвойдзем у Старое Места, знайходзіцца яшчэ так званая

ЗАЛАТАЯ БРАМА.

Праз гэтую браму, паводля традыцыі, трыумфальна ўязджаў Хрыстос у Ерузалім на Вербніцу і праз яе шмат пазьней імпэратар Гэраклій урачыста ўносіў Сьвяты Крыж, адабраны ад Пэрсаў. Цяпер гэтая брама замураваная.

Увайшоўшы ў Старое Места парз браму сьв. Сьцяпана, ды йдучы проста, зараз праваруч будзем мець

Касьцёл СЬВ. ГАННЫ,

у які ўвайходзіцца праз браму на пагост. Гэты касьцёл збудаваны яшчэ за крыжацкіх часоў, даволі добра захаваны. Цяпер ён належыць да грэка-каталіцкіх манахаў афрыканскіх місыяў Белых Айцоў.

Паводля традыцыі, касьцёл стаіць на тым мейсцы, дзе быў дом сьвятых Іакіма і Ганны. Тут мела радзіцца Прачыстая Марыя. У паўдзённай наве ёсьць сходы, каторыя вядуць уніз да каплічкі пад касьцёлам, даўнейшае маленькае пячоры, да якое прылягаў сьціплы дом сьв. Іакіма. Пад аўтаром нараджэньня Багародзіцы ў гэтай капліцы ляжыць фігурка, якая вельмі жыва і мастацка прадстаўляе дзіцятка — Найсьв. Марыю.

Перад касьцёлам, крыху воддаль, знайходзіцца сажаўка Бэтэсда, пры каторай Ісус цудоўна аздаравіў хворага ад 38 год паралітыка.

Пры ўваходзе да гэтае сажаўкі, навокал на сьценах вісяць табліцы ў розных мовах з тэкстам Евангельля аб гэтым здарэньні (Ів. 5, 2-9). Да сажаўкі сходзіцца па сходах даволі глыбока ўніз.

Калі выйдзем на вуліцу, з якое мы ўвайшлі ў касьцёл, ды будзем ісьці далей тою вуліцаю і ў тым-жа кірунку, дойдзем да мейсца дзе распачынаюцца Стацыі Крыжовае Дарогі.

**Д. Анісько.**

(Працяг будзе).

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

**АНГЛІЯ.**

**«Аб'еднаньне».**

У сакавіку г.г. выйшаў у Лёндане першы нумар часапісу «Аб'еднаньне», як орган «Хрысьціянскага Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у В. Брытаніі». Не чапаючы палітычных арыентацыяў гэтага часапісу, прыходзіцца з сумам сьцьвердзіць, што самае слова «Хрысьціянскі» вельмі негарманізуе із зьместам некаторых артыкулаў часапісу. Якімі-ж этычнымі законамі і якою маральнасьцю кіраваліся радактары часапісу «Аб'еднаньне» зьмяшчаючы артыкул: «Хто такі а. Сіповіч і чаго ён прыехаў у Лёндан?», як пераклад з аднае Лёнданскае газэты з 16-1-48, калі тая самая газэта 30-1-48 мусіла зьмясьціць выясьненьні што да ўспомненага артыкулу і аўтары артыкулу аб гэтым напэўна ведалі, калі не з ангельскіх і польскіх часапісаў і газэт, дык прынамся з беларускага двутыднёвіка «Беларус на чужыне» Нр. 3 (7). Калі ўжо зьяўляецца нейкая новая форма хрысьціянства з этыкаю сьведамае хлусьні, дык чаго добрага можна ад яго спадзявацца? Партыйная барацьба была ўсюды і заўсёды, але тыя, што ў гэтай барацьбе надужываюць сьвятасьцяў самі аб сабе выдаюць ганебны прысуд.

**30-ыя ўгодкі 25-га Сакавіка.**

Урачыстасьці з нагоды трыццатых ўгодкаў 25-га Сакавіка адбываліся ў Лёндане дня 28-III. З гэтае нагоды адбыліся ўрачыстыя багаслужэньні ў беларускіх каталіцкай і праваслаўнай сьвятынях перад паўднём, а па паўдні адбылася сьвяточная акадэмія з рэфэратамі і мастацкаю праграмаю, якая на прысутных зрабіла вялікае ўражаньне, бо некаторыя нумары дэклямацыі былі запраўды вельмі моцныя, а іншыя вельмі прыемныя — за гэткія неспадзяванкі вучаніцы Соня і Ніна атрымалі заслужаную буру воплескаў.

**АРГЭНТЫНА.**

**Умовы жыцьця.**

Аб умовах жыцьця ў Аргэнтыне піша адзін з новых беларусіх эмігрантаў: «...Праца ў Аргэнтыне забясьпечана і ўсюды адчуваецца нястача працоўных рук, таму ня цяжка знайсьці добра платнае мейсца. Просты работнік зарабляе ад 12 да 16 пэзо ў дзень. Каб лягчэй было з'арыентавацца, які гэта заработак, дык вось Вам параўнаўчыя цэны на некаторыя тавары: кіляграм хлеба 0,40 пэзо, кг. мяса 1,20 пэзо, кг. бульбы 0,35 п., кг. сланіны 3,80 п., гатовае ўбраньне ад 160 да 220 п. Курс пэзо такі: даляр роўны 4пэзо і 15 цэнтаў.

Дык на мой пагляд тут можна жыць, і хто хоча працаваць, дык можа ехаць бяз страху...»

**БЭЛЬГІЯ.**

**Агульны Сход С. Б. Б.**

Дня 29-III г.г. адбыўся ў Флямаль-Льеж 4-ы зьезд С. Б. Б. з удзелам дэлегатаў ад усіх адзьдзелаў.

Перад тым, як распачаць Зьезд, дэлегаты ўрачыста абходзілі 30-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. А 10 гадз. раніцы адбылося Багаслужэньне за Беларускі Народ, а ў 12 распачалася акадэмія прысьвячаная 30 угодкам 25 сакавіка. Былі выгалашаны два даклады на тэмы: «Гістарычны агляд 25 Сакавіка» і «Беларуская праблема ў сучаснасьці».

Між іншым зьезд прыняў рэзалюцыю, у якой

выказваецца і надалей давер Ураду і Радзе Б. Н. Р., БССР зьезд уважае за акупанцкую фікцыю, а Б. Н. Ц. за чужацкую агэнтуру.

На ўтрыманьне Ураду Б. Н. Р. зьезд пастанавіў завесьці падатак па 5 бэл. франкаў ад кожнага беларускага грамадзяніна ў Бэльгіі.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Канфэрэнцыя Каталіцкіх Д. П. сьвятароў.

Ад 9 да 13 сакавіка г.г. адбылася м. Бад-Друібург Інтэрнацыянальная Канфэрэнцыя Каталіцкіх Сьвятароў Д. П. для Брытанскае зоны. У Канфэрэнцыі удзельнічалі: беларусы, латышы, літоўцы, паляки, украінцы і югаславяне. Абгаворваліся справы душпастырства ў лягэрах, маральнасьць Д. П., матэрыяльная дапамога і перасяленьне сем'яў.

Ад беларусаў прадстаўніком быў а. М. Маскалік.

### Беларуская Харытатыўная Служба ў Нямеччыне.

Зьвяртаецца да ўсіх беларусаў, пражываючых на абшары Зах. Нямеччыны, з просьбаю падаць свае адрасы ў канцылярыю Харытатыўнае службы, для аблягчэньня і прысьпяшэньня пошукаў сваіх родных і знаёмых так з Нямеччыны, як із-за акіянскіх краінаў. Пісаць на адрыс:

**Weissruthenisches Caritasdienst. 20b. Goslar. Sommerwohlenstr. 1 A. Brit. Zone.**

### 30-я ўгодкі 25-га Сакавіка.

Сёлетні абход 30-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ўва ўсіх большых скупленьнях у Нямеччыне меў вельмі ўрачысты характар. З гэтае нагоды зраньня ўсюды былі адпраўлены Службы Божыя, а па палудні адбыліся ўрачыстыя акадэміі. Найбольш жывымі цэнтрамі абходаў былі беларускія лягэры і звычайна да іх далучаліся ў гэтым сьвяткаваньні, беларусы, пражываючыя на прыватных памешканьнях.

## ШВЭЦЫЯ.

### Арганізацыйныя захады.

Па гэтай вайне ў Швэцыі апынулася паважная колькасьць беларусаў, але да гэтага часу яны не давалі ніякіх азнакаў арганізацыйнага жыцьця. На гэта зложыліся дзьве прычыны:

1. Бальшыня нашае эміграцыі раскіданая на працах у гушчарах лясоў на разьлеглай тэрыторыі Швэцыі,

2. а яшчэ больш важная прычына была тая, што для новае эміграцыі, асабліва яе арганізацыйнаму жыцьцю, ня спрыялі настроі ўрадавых колаў. Цяпер гэтыя настрої крыху зьмяніліся на лепшае. Нядаўна знайшлася беларуская ініцыятыўная група, якая паставіла сабе за мэту зарганізаваць культурна-асьветную і ўзаемадапамаговую беларускую арганізацыю.

## ФРАНЦЫЯ.

### 30-я ўгодкі 25-га Сакавіка.

У сам дзень 25-га сакавіка беларуская парыская калёнія абходзіла 30-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў салі Хрысьціянскага Сындыкату. Быў прысутны таксама прэзыдэнт М. Абрамчык.

Акадэмію адчыніў Гэнэральны Сакратар інж. Л. Рыдлеўскі, які пасьля свайго уступнага слова перадаў голас сп. Прэзыдэнту.

Сп. Прэзыдэнт у сваёй прамове падкрэсьліў вытрываласьць і стойкасьць беларускага народу ў барацьбе за ідэю 25-га сакавіка, бо аж 30 год змагаючыся, у цяжкіх абставінах, беларускі народ ні трошкі не пахіснуўся з пазыцыі Б. Н. Р.

Уканцы ўрачыстасьці прысутныя аднагалосна прынялі рэзалюцыю, у якой выказваецца давер Радзе і Ураду Б. Н. Р. і дэкляруецца гатоўнасьць быць заўсёды адданымі Ураду ў рэалізацыі ідэалу Беларускага Народу.

У нядзелю 28-III у беларускай капліцы пры царкве Сан Сюльпіс адбылася ўрачыстая Служба Божая ў намераньні Бацькаўшчыны і з адпаведным прынагодным казаньнем. Папалудні гэтага-ж дня адбылася зборка ў салі «Хаўрусу», на якой былі прысутныя так-жа некаторыя прадстаўнікі ад беларускіх асяродкаў з правінцыі.

У жывой сямейнай атмасфэры была праведзена дыскусыя на тэму тактыкі сучасных ворагаў Б. Н. Р. Усімі было сьцьверджана, што сучасная акцыя разьбіваньня Б. Н. Р. вядзецца ў больш замаскаваны спосаб, чым гэта вялося дагэтуль, арганізуючы розныя дывэрсыі.

## ПОШУКІ:

**Мандрыка Уладзіміра** з Раёўкі, які свайго часу быў немцамі дэпартаваны на працу ў Гэссэн, шукае Кажуро Дзімітры і просіць усіх, хто можа даць аб ім якія весткі, пісаць на адрыс:

**Kazuro Dzimitr, Voie de Wasmes, 99, Cuesmes (Mons), Belgique.**

**Скурко Уладзімір** з Віленшчыны шукае сваіх родных і знаёмых. Пісаць на адрыс:

**Skurko Wladimir, Hursley «A», Winchester, Hants, England.**

**Касабуцкага Антона** с. Данілы шукае стрэчны брат Яцэвіч Аляксандр, **Малашэвіча Пятра** шукае зямляк Яцэвіч Аляксандр. Пісаць на адрыс:

**Herr Pr. Jazewitsch A., Kirchheim 19, Kreis Ried i Inn, Ober Osterreich, Autriche.**

## ЗЬМЕСТ.




Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.